

Мама Му стаяла на пашы. “Якая цудоўная восень”, - думала яна. “Лісце такое каляровае. А як прыгожа, калі сонца свеціць скрозь галінкі дрэваў.” Раптам яна нешта ўбачыла.
- Пакажу Крумкачу, калі прыляціць, - сказала яна. – Вось ужо ён узрадуецца!



ХЛОП-ХЛОП-БУМ. Гэта прыляцеў Крумкач!
- Прывітанне, Крумкач! – сказала Мама Му.
- Здароў, Мама Му, - павітаўся Крумкач.
- Хадзі, я табе нешта пакажу, - паклікала яго Мама Му і пайшла да дрэваў, што раслі за кароўнікам.
- Ды бачыў я ўжо гэта ўсё… - прабурчэў Крумкач. – Што там у цябе *ізноў* ?
- Му-у, гэта вельмі прыгожа, - сказала Мама Му. – Вось пабачыш!



- Во! – сказала Мама Му і зірнула ўгару. – Глядзі!
- Во? – здзівіўся Крумкач. – Ты хацела паказаць мне звычайнае *дрэва* ? У мяне шмат справаў! І няма ні хвіліны, каб глядзець абы на што.
- Але зірні вунь туды, Крумкач. Паглядзі ўважлівей і ты ўбачыш, што там зрабілі дзеці.



- Што?! – спытаў Крумкач. – Куча дошак? Навошта гэтыя дзеці зацягнулі столькі дошак аж на самае дрэва?!
- Гэта ж *дамок* , Крумкач.
- Дамок вунь *там* ?
- Так, - сказала Мама Му. – Дзеці такія разумныя. Яны распілавалі дошкі ды збілі іх цвікамі. І дамок гатовы! Му-у, які прыгожы.
- І нічога ён не прыгожы, - запярэчыў Крумкач.



- Але кар-р! – закрычаў Крумкач. – Яны сыходзяць! Цяпер, калі дамок ужо збудаваны, яны не могуць сысці!
- А можа ім трэба дахаты? – разважліва сказала Мама Му.
- Дахаты! – абурыўся Крумкач. – Нельга вяртацца дахаты, толькі збудаваўшы дамок. Трэба ім карыстацца! Заўсёды будуюць, каб мець, а не проста, каб будаваць.



- А цяпер *я*  хачу пабудаваць дамок, - сказала Мама Му.
Крумкач не паверыў сваім вушам:
- Дамок? – паўтарыў ён.
- Му-у, - сказала Мама Му. – Дамок. На дрэве.
- На *дрэве?* – перапытаў Крумкач. – Не, не, не!
Ён пачаў гаварыць вельмі павольна і выразна:
- Ты карова, Мама Му. Паўтарай за мной:
"Я – карова. Каровы не лазяць па дрэвах і не будуюць дамкоў". Паўтарай.

- Я хачу пабудаваць дамок.
Крумкач пачаў ізноў, яшчэ павольней:
- Не! Слухай уважліва і паўтарай:
“Каровы. Не. Будуюць. Дамкоў”. Давай.
- Зараз мне трэба знайсці малаток і цвікі.



- А дзе карова возьме дошкі? – спытаў Крумкач.
- Здаецца, дзеці пакінулі колькі дошак, - сказала Мама Му.
- А што гэта *там* !? – закрычаў Крумкач.
- Малаток, Крумкач. Трэба ўзяць малаток і …

- Але ж ты *карова* ! Каровам не патрэбны малаток.
- Так, патрэбны, калі яны будуюць дамкі.



Крумкач схапіўся за галаву:
- Але ж каровы не будуюць дамкоў!
- Трэба біць пасярэдзіне, каб патрапіць ў цвік, - сказала Мама Му.
- Але, паслухай! – закрычаў Крумкач.
– У цябе ж няма ніводнай рукі! У цябе чатыры нагі. У цябе няма чым *трымаць малаток* .



Крумкач заплюшчыў вочы:
- У яе атрымалася! – прашаптаў ён.
Мама Му лупіла малатком і выглядала вельмі задаволенай.
Яна спявала:
- Па цвіку, па цвіку, па цвіку ку-ку, ку-ку.
Яна азірнулася, каб паглядзець, ці атрымалася забіць цвік.
- Я больш не магу гэтага бачыць, - сказаў Крумкач.
– У мяне алергія на кароў, якія забіваюць цвікі. Чырвань высыпала па ўсім целе. Я захварэў. Я паляцеў дахаты.



- Ай-яй! – сказала Мама Му.
Крумкач ізноў узбадзёрыўся:
- Цвік загнуўся! – закрычаў ён і паказаў дзе.
Мама Му асцярожненька стукнула малатком.
- Ай-яй! – зноў сказала яна.
- Ты сапсавала і гэты цвік таксама! – закрычаў Крумкач.
– Ты пагнеш усе цвікі, Мама Му. Трэба біць пасярэдзіне!
- Я ведаю, - адказала Мама Му.
– Але гэта вельмі цяжка, калі трымаеш малаток хвастом.
Часам я не магу патрапіць па цвіку.
- Па цвіку?! – бурчэў Крумкач. – Часам ты не трапляеш нават па дошцы.



- Паслухай, Мама Му. Пілу ты дакладна *не зможаш* трымаць хвастом! – закрычаў Крумкач.
- Му-у, Крумкач, - адказала Мама Му і пачала пілаваць.
– Калі ў цябе *ёсць* хвост, ім можна трымаць нават пілу. Але не ўсе маюць хвост, таму калі яго няма, то сапраўды цяжкавата ім трымаць пілу.
- Але ж ты пілуеш крыва!
- Му-у, Крумкач. Мне і так добра.



- Кар-р! Калі пілаваць крыва, атрымаецца кепскі дамок!
- Му-у, “крыва” зусім не значыць “кепска”.
- Не! – абурыўся Крумкач. – Кепска значыць кепска, а крыва значыць крыва!

Мама Му амаль скончыла пілаваць, але правесці пілой апошні раз было вельмі цяжка. Тады Мама Му злёгку стукнула па дошцы. І яна адламалася!
- Ура-а-а! – узрадавалася Мама Му. – У мяне атрымалася!



- Ну вось, цяпер дамок гатовы, - сказала Мама Му.
- Але кар-р, - запярэчыў Крумкач. – Нельга ўсё што заўгодна называць дамком.
- Я спускаюся ўніз, - задаволена адказала Мама Му.
- Уніз! – абурыўся Крумкач. – Калі дамок ты павінна *быць* збудаваны, там! Жыць! Гуляцца! Нельга проста пабудаваць дамок на дрэве, а потым залезці на іншае дрэва і пабудаваць яшчэ адзін. Толькі ўяві сабе, што ўсе будуць так рабіць! Тады на кожным дрэве ў лесе з’явіцца па дамку. Як гэта будзе выглядаць?!



- Напэўна, весела, - сказала Мама Му.
- Весела?! – закрычаў Крумкач. – У мяне зараз адымуцца крылы! Кожны раз, калі дзяцел будзе стукаць па дрэве, ён будзе стукацца галавой аб дамок. Ты лічыш, гэта вельмі весела?!
- Калі дамкі будуць такія ж прыгожыя, то …
- Прыгожыя?! – закрычаў Крумкач. – Ты называеш гэтую крывую гару дошак прыгожай?! Ты нават не ўяўляеш, як мусіць выглядаць сапраўдны дамок!
- Але ты дакладна ведаеш, як, - спакойна сказала Мама Му.
- Ведаю! Кар-р! Так, гэта я ведаю дакладна!



Зараз я пакажу табе, як трэба будаваць.
Толькі спачатку прынясу мае адмысловыя інструменты!



І Крумкач пачаў будаваць.
У яго быў малаток і цвікі, і піла, і дошкі.
А таксама шрубкі, і адкрутка, і лінейка, і рулетка, і іголка, і нітка, і швейная машынка, і сок, і тэрмас, і бутэрброды, і бінокль, і сцяг.



Ён працаваў вельмі хутка.
Ён карыстаўся амаль усімі сваімі рэчамі адначасова.
Ён забіў усе цвікі і завінціў усе шрубкі.
Ён увесь час нешта вымяраў ды ўзважваў.
Але ўрэшце дамок быў збудаваны.



- Атрымаўся крумкачыны замак! – сказала Мама Му.
- Цяпер мне няма чаго рабіць, - адказаў Крумкач.
- Але ж ты пабудаваў дамок. І ён такі прыгожы, Крумкач!
- Але ж ён ужо збудаваны, - сказаў Крумкач. – Што рабіць далей? Што б такое прыдумаць? Што звычайна робяць, калі пабудуюць дамок?
- А ты заходзіў унутр? Хіба ты не хочаш туды зазірнуць?
- Зазірні ды зазірні… Навошта абавязкова заходзіць ва ўсе дамкі, якія будуеш?! У мяне шмат іншых спраў, я не магу ад відна да відна зазіраць у розныя дамкі. Я паляцеў дахаты. Бывай!



ХЛОП-ХЛОП-ХЛОП.
Крумкач паляцеў дахаты.
- Пакуль, Крумкач, - сказала Мама Му. – Ты збудаваў вельмі прыгожы дамок.
Але Крумкач гэтага не пачуў, бо быў ужо далёка ў сваім Крумкачыным лесе.




- Крумкач будаваў сапраўды хутка, - сказала Мама Му. – Вельмі шмат цвікоў пагнулася… Але му-у. Можна адзін, а можна два цвікі скрывіць. Усё адно дамок стаіць.